Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты **3.000000** м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 10. Вільня, Нядзеля, 16-га сакавіка 1924 г. Год I.

## Характэрныя праявы.

Як вядома кожнаму, хто хоць болей-меней знаёмы з сацыялістычнымі праграмамі, асноўным дамаганьнем марксістаў зьяўляецца *пераход у рукі народу фабрык і ўсялякіх прамысловых прадпрыемстваў.* Гэты галоўны лёзунг работніцкіх клясавых арганізацыяў выклікае самую непрымірымую барацьбу буржуазіі з сацыялізмам наагул, — і калі ў Англіі запанаваў работніцкі ўрад Мак-Дональда, буржуазныя партыі зразу-ж абвесьцілі, што будуць яго „цярпець“ толькі датуль, пакуль ён не пачне правадзіць у жыцьцё сацыялістычнае праграмы адносна да нацыяналізацыі прамысловасьці.

У радавых рэспубліках нацыяналізацыя фабрык адбылася *рэвалюцыйнай дарогай.* У Заходняй Эўропе, а перад усім у тэй-ж Англіі, пераважае пагляд, што правясьці гэтую сацыяльную рэформу можна і *без рэвалюцыі:* даволі, каб у парляманце і ў урадзе здабылі перавагу работнікі, і нацыяналізацыю прамысловасьці можна будзе правясьці мірнай дарогай, праводзячы адпаведныя законы.

Эканамічны крызіс, які пасьля сусьветнае вайны не абмінуў і Англіі, спарадзіў тут вялікае безработніцтва і цэлы рад вострых канфліктаў работнікаў з фабрыкантамі. Хто чытае газэты, той ведае аб вялізарных забастоўках, што за апошнія гады балюча ўстрасалі ўсім эканамічным жыцьцём Англіі. І можна сьмела сказаць, што тамака *само жыцьцё* стаўляе на парадку дня дамаганьне нацыяналізацыі прынамся *буйнае прамысловасьці* (капальні, мэталюргію, чыгункі і т. п.). А арганізаванасьць ангельскіх работнікаў і бліскучая пабеда іх на апошніх парляманцкіх выбарах зьяўляюцца парукай таму, што справа гэтая раней ці пазьней будзе праведзена ў жыцьцё *парляманцкай дарогай.*

Цяжкі эканамічны крызіс, які перажывае цяпер Польшча, выклікае тутака йшчэ больш вострых канфліктаў паміж працоўнымі і фабрыкантамі, чым у іншых старонках. Аб вострасьці іх красамоўна гаварылі ў свой час крывавыя кракаўскія падзеі, калі вуліцы старое сталіцы Польшчы былі заліты крывёй работнікаў і жаўнераў. Кракаўскія падзеі на мамэнт як-быццам прытушылі грозны пажар. І хоць канфлікты ў прамысловасьці ня спыняюцца, а, наадварот, робяцца ўсе часьцейшымі,—аднак, работнікі, кіраваныя пераважна Польскай Партыяй Сацыялістаў, у кожным прыпадку стараюцца *шукаць мірнага выхаду, зварачаючыся да польскага ўраду.*

У справах дробных спорак між работнікамі і фабрыкантамі пасрэдніцтва ўраду можа, ведама, шмат дапамагчы. Але цэлы рад апошніх канфліктаў прымушае работнікаў выстаўляць дамаганьні, пры якіх аб прымірэньні на аснове кампрамісаў ня можа ўжо быць гутаркі.

Справа ў тым, што фабрыканты, каб прымусіць работнікаў зрачыся сваіх заваяваньняў (у справе платы, 8-гадзіннага дня працы і інш.), пачалі ўжываць спосабу барацьбы, які называецца *лёкаўт.* Кажучы папросту, яны зачыняюць свае фабрыкі і стараюцца *голадам* зваяваць сваіх працаўнікоў. У двух толькі нумарох газэты „Robotnik“ (з 11 і 13 марца) мы чытаем аб лёкаўце і аб пагрозе лёкаўтам у „Відзэўскай мануфактуры“ (6.000 работнікаў) і ў фабрыцы „Олькуш“ (1.200 раб.). Працоўнікі гэтых фабрык на сваіх сходах прынялі блізу аднолькавыя пастановы: яны дамагаюцца, *каб урад прымусіў фабрыкантаў пусьціць фабрыкі ў ход* (—балазе заказаў ёсьць даволі!), калі-ж бы выступленьне ўраду не дало вынікаў, дык — *каб урад вызначыў прымусовую адміністрацыю ў гэных фабрыках і сам пусьціў іх у ход, адсоўваючы ўласьнікаў фабрык.*

Прымусовая адміністрацыя фабрык, пусканьне іх у ход паміма іх уласьнікаў—гэта-ж *першы крок да нацыяналізацыі.* І мы з асаблівай уважлівасьцяй адзначаем выступленьні відзэўскіх і олькускіх работнікаў, бо гэта зусім *новая праява, новы мамэнт у работніцкім руху ў Польшчы.* На жаль, наперад трэба сказаць, што няма абсалютна ніякае надзеі на тое, каб у сучаснай Польшчы дамаганьні работнікаў маглі быць уважаны ўрадам: пан Грабскі—не Мак-Дональд, і ў польскім сойме абсалютную перавагу мае буржуазія, каторую на сьмерць пужае самы гук слова „нацыяналізацыя фабрык“... І ў гэтым—трагізм палажэньня, вывады з якога зробіць само жыцьцё.

## Магчымасьць зьменаў у Эўропе.

Старшыня Рады Народных Камісараў Саюзу Радавых Рэспублік, Рыкаў, выехаў у Лёндын на конфэрэнцыю з Мак-Дональдам. Так паведамляе „Echo de Paris“. Мы ня маем магчымасьці праверыць гэтага факту, але, каб нават гэта была хлусьня—сутнасьць справы ад гэтага не мяняецца. Прызнаньне ангельскім урадам Саюзу Радавых Рэспублік de jure, бяз усякіх умоваў — бязумоўна факт, які будзе мець вялікія гістарычныя вынікі.

Каб зразумець, якія пэрспэктывы для Эўропы нясе гэтае прызнаньне—трэба перш за ўсё добра памятаць, што старшыня ангельскага рабочага ўраду, Мак-Дональд, ня гледзячы на розныя дыплёматычныя заявы афіцыяльнага характару,—зьяўляецца адным з правадыроў другога інтэрнацыяналу.

Яго міжнародная палітыка такім чынам зьяўляецца палітыкай ня толькі ангельскай Партыі Працы, але ў значнай меры і палітыкай другога інтэрнацыяналу, з якім ён павінен лічыцца і перад якім ён нясе адказнасьць. А калі прыняць пад увагу, што другі інтэрнацыянал і ў часе вайны і ў часе падпісаньня Вэрсальскага трактату, якому ён раней даў санкцыю, зрабіў досыць, каб падарваць свой аўтарытэт перад рабочаю клясаю Эўропы, — то само сабою зразумела, што, апынуўшыся на чале ўраду вялікае магутнае дзяржавы — другі інтэрнацыянал рукамі і вуснамі Мак-Дональда зробіць усё магчымае, каб ізноў падняць аўтарытэт згодніцкае палітыкі перад вачамі работнікаў.

Нічым іншым, як толькі гэтым тлумачыцца і прызнаньне С. С. Р. Р., якога вымагалі ангельскія рабочыя. А прамова Гэндэрсона аб рэвізіі Вэрсальскага і іншых трактатаў? А гутаркі аб разбраеньні? Усё гэта паказвае, што другі інтэрнацыянал не на жарты думае павярнуць свой руль улева. У зьвязку з гэтай небясьпечнай для Вэрсальскай Эўропы Мак-Дональдаўскай акцыяй, вельмі важна і цікава, якую пазыцыю займе Масква. Тут таксама ня трэба забывацца, што радавы ўрад, якім кіруе Р. К. П. знаходзіцца пад значным уплывам трэцяга інтэрнацыяналу. Пра палітыку Масквы даўно ўжо злажылася пагаворка: „Масква сьлязам ня верыць“. Магчыма і нават болей, чым магчыма, што ў даным разе Масква ня верыць Мак-Дональду...

Але ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што трэці інтэрнацыянал з самога свайго заснаваньня вельмі востра выступіў проці Вэрсальскага трактату, проці войнаў і мілітарызму. Больш таго, ўсю сваю палітыку і надзею на міжнародную рэвалюцыю Маскоўскі інтэрнацыянал будаваў і будуе на тым, што Вэрсальскі трактат прывядзе гаспадарку Эўропы да краху.

Калі цяпер Лёндын пачынае размовы аб пераглядзе трактатаў і разбраеньні, то само сабою зразумела, што гэта можа стварыць нейкі грунт для часовай згоды ня толькі паміж Маскоўскім і ангельскім урадамі, але й паміж другім і трэцім інтэрнацыяналамі. Мы мала верым у тое, што гэтая згода будзе поўнаю. Але нават часовая і абмяжаваная згода паміж Саюзам Радавых Рэспублік і другім інтэрнацыяналам можа прывясьці да вялікіх пераменаў і значных падзеяў у Эўропе.

Ува ўсякім разе нам, беларусам, трэба пільна сачыць за тым, што цяпер робіцца ў колах II-га і III-га інтэрнацыяналаў. Нам трэба добра памятаць, што, калі заварыцца каша з пераглядам трактатаў, то, бязумоўна, будзе разглядацца ня толькі адно пытаньне аб Нямеччыне, а ў той ці іншай форме будуць абгаварвацца і вырашацца і іншыя пытаньні, у тым ліку і беларускае і украінскае. Болей таго, нам трэба памятаць, што ў значнай меры *ад нас саміх, ад нашай сілы, ад нашай энэргіі, ад моцы нашага нацыянальнага руху і нашай нацыянальнай дысцыпліны будзе залежаць тое ці іншае вырашэньне нашае справы.*

N...

## Што такое „справа Клайпэды“?

На распачаўшайся сэсыі Рады Лігі Народаў першай, можна сьмела сказаць, — па важнасьці справай зьяўляецца справа Клайпэды.

Клайпэда, гэта—вельмі выгадны, а перад усім—адзіны, бо шмат бліжэйшы з усіх портаў на Балтыцкім моры, пры ўпадзеньні ў яго на чатыры пятых часткі нашай беларускай ракі Нёмана.

Вялікая сплаўная і судаходная рака Нёман — найвыгаднейшы, бо перад усім найтанейшы, водны шлях для вывазу розных, а галоўнае гэткіх масыўных, як лес, тавараў на сусьветны рынак.

З гэтага адразу відаць, якое аграмаднае значэньне гэты порт мае для нашага Беларускага Краю, галоўнае багацьце якога складаюць яго амаль не найвялікшыя ў Заходняй Эўропе лясныя басэйны.

І Клайпэда, даваенны нямецкі Мэмэль, напраўду йграла гэткую значную ролю ў эканамічным жыцьці нашага Краю, бо, паводле клайпэдзкай статыстыкі, каля 65 працэнтаў усяго вывазу праз гэты порт прыпадала на долю Заходняе Беларусі, 15 прац. на Ўсходнюю Беларусь, і толькі рэшта—на Літву і Латвію.

З гэтага—зусім ясна, што эканамічным „прыроджаным гаспадаром“ Клайпэды, які запраўды корміць і будуе порт зьяўляецца—на 85 прац.! наша Беларусь, а Літва, якая цяпер валадае портам і пятай — найважнейшай часткай Нёмана,—натуральны наш супольнік і эканамічны саюзьнік.

Так справа выглядае найпрасьцей і найслушней, бо гаспадарча і нацыянальна...

Але галоўнай вадай нашых „павэрсальскіх часоў“ зьяўляецца тое, што дрэнную, руйнаваўшую нацыянальна-эканамічнае жыцьцё народаў палітыку, яны, замест таго, каб направіць,—замянілі яшчэ горшай, яшчэ больш руйнуючай!..

Найлепшым, бо найбліжэй датыкаючым нас, доказам гэтага і зьяўляецца справа Клайпэды, якую маніцца вырашыць, штучна выразаўшы яе з агульнага хворага цела Вэрсальскай Эўропы, Ліга Народаў.

Ужо з гэтага відаць, што пастаўленая першым пытаньнем на пачаўшайся сэсыі Рады Лігі, як важнейшая, справа Клайпэды ня можа быць вырашана асобна ад перагляду ўсіх адносінаў у Эўропе, створаных Вэрсальскім Мірам...

І як быццам сымвалічным довадам гэтага і зьявілася тое, што справа Клайпэды ўжо зьнята Радай Лігі, як першая, з парадку дня і перанесена на пасьля... — калі прыедзе няпрыбыўшая яшчэ літоўская дэлегацыя...

Вадлівай, міразабойчай асаблівасьцю Вэрсальскай Эўропы зьяўляецца тое, што найважнейшыя справы народнага жыцьця вырашаюцца ў ёй ня творчымі інтэрасамі эканомікі, не ўмацоўваючымі мір правамі вольных народаў, але ваеннай сілай перакроеных на карысьць пераможцаў дзяржаваў...

Што гэткі стан рэчаў руйнуе эканамічнае і палітычнае здароўе Эўропы і пагражае новым кракам, аб гэтым у Эўропе ўжо бадай няма спрэчак... — Бо, калі нават найвялікшым і найбагацейшым пераможцам пагражае эканамічна-фінансавая катастрофа:—калі ў Англіі паўтара мільёна работнікаў вы-

кінута з майстроўняў, а францускі франк ляціць уніз на зламаньне карку, дык ясна, што аружнай перамогай у нашыя часы нічога і нікога не пераможаш, а паб'еш перадусім самога сябе...

Вэрсальская Эўропа на нашых вачох неяк паварачывае назад...

Гэты паварот, як і можна было ўгадаць напярод, ідзе ў двух галоўных напрамках: 1) пакрыўджаныя аружжам эканамічныя і нацыянальныя чыннікі пачынаюць йграць належную ім ролю, і 2) нарастаючая моц, а перадусім аружаая сіла пабітых у вайне народаў пачынае патроху, але ўсё выразьней, выраўноўваць гэтак званую „эўрапэйскую раўнавагу“, адбудоўваць той больш сталы і трывалы „азброены мір“, які істнаваў да вайны...

І вось, усе вышэйпаказаныя намі зьявішчы, гэтае імкненьне сучаснай Эўропы да адноснага аздараўленьня яе адносінаў да ўзнаўленьня раўнавагі найлепш адбіваецца ў той справе, якую цяпер маніцца вырашыць Ліга Народаў...

Трэба добра зразумець, што клайпэдская, гэтак блізкая нам справа ня ёсьць толькі дробная лёкальная (мясцовая) спорка паміж Польшчай і Літвой, але зьяўляецца адным з важных і рашучых этапаў на шляху гэтага павароту Эўропы ад Вэрсальскай блутаніны да нейкай новай больш рэчавістай рэальнасьці...

Што гэта—так, відаць перад усім з тэй ноты Чычэрына, якую нашыя чытачы знойдуць у гэтым № газэты.

**С.**

# Аб нашай працы заграніцай.

Ажыўленьне на міжнароднай палітычнай арэне мае нязвычайна вялікую вагу ня толькі для выступаючых на гэнай арэне дзяржаў, але і для народаў, што тамака *не выступаюць*. А не выступаюць, бо недапушчаны і няпрызнаны дагэтуль, як, прыкладам, *беларусы*.

Запраўды, урад *Радавае Беларусі* (Усходняе), якая ўваходзіць у склад Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, ня мае голасу ў Лізе Нацыяў, бо туды не ўваходзе і ўрад СССР. *Заходняя-ж Беларусь*, што пад Польшчай, хоць і мае прадстаўніцтва ў польскім Сойме і Сэнаце, ды польскім урадам нават яшчэ і за беларускую не прызнаецца!

З другога боку і эміграцкі ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі, ня маючы ўласнае тэрыторыі, дарэмна стукаецца ў дзьверы Лігі Нацыяў. Яго ноты адно толькі неафіцыяльна прыймаюцца да ведама, як матарыялы да беларускага пытаньня.

І ўсё-ж гэная самая Ліга Нацыяў спакойна вырашае пытаньні аб жыцьці і сьмерці нашага народу, апіраючыся на заявах і асьвятленьні гэтых пытаньняў дзяржавай, што адкрыта імкнецца да поўнага зьніштажэньня ў сваіх межах беларускае нацыянальнасьці.

Гэта—дзіка, недапусьціма. І ўсё-ж такі гэта так.

Мы павінны змагацца з гэткім палажэньнем. Мы павінны знайсьці выхад з яго — і то ўраз-жа, не адкладаючы. Хоць уваход СССР у Лігу Нацыяў трэба лічыць пэўным, ды ён можа наступе йшчэ ня хутка. А „пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесьць“. Дык трэба нешта рабіць зара—не адкладаючы.

Мы маем на думцы адну дарогу, якая можа шмат нам памагчы на міжнароднай палітычнай арэне. Гэта спосаб, якога ўжывалі і палякі, і літвіны пры закладзінах фундамэнтаў іх дзяржаўнасьці.

У самым пачатку вайны ў Бэрліне былі закладзены „польска-нямецкае“, а пасьля і „літоўска-нямецкае“ таварыствы. У гэтыя таварыствы, побач з палякамі і літвінамі, уваходзілі выдатнейшыя нямецкія палітычныя дзеячы, якія тутака знаёміліся з усімі справамі названых нацыянальнасьцяў і пасьля знаёмілі з імі сваё грамадзянства—праз газэты, публічныя лекцыі і т. п.

Па гэтай дарозе трэба пайсьці і нам. Трэба стукацца ня толькі да чужых урадаў, але *перад усім да чужых грамадзянстваў*, да тых народных масаў Заходніх дзяржаў, якія сваю волю выяўляюць у парлямантах і ўрадах.

Беларускія эміграньты—пераважна інтэлігенты — ёсьць цяперака бадай у-ва ўсіх старонках Эўропы, а таксама ў Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі. Гэтыя нашыя эміграньты павінны стварыць адумысную грамадзкую арганізацыю — прыкладам *лігу абароны правоў беларускага народу*, якая мела-бы свае аддзелы ў-ва ўсіх галоўных цэнтрах Эўропы і ў Амэрыцы. У гэных аддзелах у Жэневе, Лёндыне, Бэрліне, Парыжу, Празе, Рызе, Коўне і г. д. адзін-два энэргічныя беларусы маглі-бы згуртаваць прыхільных да нас тамтэйшых палітыкаў і гэтак стварыць стройную арганізацыйную сетку, праз якую ішло-бы асьведамленьне чужаземных грамадзянстваў аб нядолі і крыўдах беларускага народу.

Асаблівую вагу мела-бы такая работа ў Жэневе—цэнтры дзейнасьці Лігі Нацыяў.

Мы падаем гэту думку, маючы цьвёрдае перакананьне, што яна зусім рэальная і лёгка выпаўнімая. Такая *грамадзкая* арганізацыя заўсёды будзе мець вольны доступ туды, куды зачынены дзьверы таму ці другому беларускаму *дзяржаўнаму* прадстаўніцтву.

І голас яе напэўна выслухаюць уважліва тыя, хто, змагаючыся за вызваленьне сваіх працоўных масаў, умее адчуваць гора і боль такіх-жа гаротнікаў другога народу.

**Лаўрыновіч.**

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

# Вольная беларуская трыбуна.

## Чарговыя заданьні.

Беларускі нацыянальны рух расьце і пашыраецца, як на Ўсходзе, так і на Захадзе Беларусі. Наша моладзь гарыць агнём нацыянальнай сьвядомасьці і дае пэўныя надзеі ня толькі дагнаць, але і перагнаць сваіх бацькоў, піонэраў беларускага адраджэньня.

У сучасны момант наш нацыянальны рух носіць ужо пэўныя адзнакі масавага руху.

Можна было непакоіцца за лёс беларускага руху ў Вітабшчыне, Гомельшчыне, Магілёўшчыне і Смаленшчыне, дзе да апошніх часоў ён не выяўляў сябе ў пэўных формах. Але далучэньне гэтых раёнаў да Радавае Беларусі і радасьць, з якою спаткала сялянства і рабочыя прадстаўнікоў Менску, дае нам пэўнасьць, што і там нацыянальная беларуская думка знойдзе для сябе пэўны грунт.

Возьмем хоць-бы Воршу. Вядомы беларускі пісьменьнік, Цішка Гартны выяжджаў туды з пэўнымі заданьнямі азнаёміць грамадзянства з дасягненьнямі беларускай літэратуры, з беларускім рухам наагул. І ня гледзячы на тое, што Ворша толькі першы раз бачыла ў сябе адказнага прадстаўніка беларускага руху—прамовы і даклады Цішкі Гартнага, прачытаныя ім у беларускай мове, выклікалі буру энтузіазму сярод моладзі і нават старых беларусаў.

Тое самае адбылося і ў Полацку, куды выяжджаў вядомы беларускі адраджэнец Ігнатоўскі. Менскія газэты друкуюць цэлы шэраг водгукаў—рэзалюцыі сялянскіх і настаўніцкіх сходаў.

Усе гэтыя рэзалюцыі вельмі характэрны для беларускай сучаснасьці. Яны выяўляюць ня толькі рост і пашырэньне беларускага нацыянальнага руху, але, што самае галоўнае, *сьпеласьць дзяржаўнай думкі і папулярнасьць у грамадах злучэньня ўсіх беларускіх земляў у адну дзяржаўную адзінку.*

Факты росту беларускага нацыянальнага руху прымушаюць нас глыбока задумацца. Расьце народная энэргія. Копяцца пэўныя нацыянальныя вартасьці...

Энтузіязм моладзі патрабуе кіраўніцтва і пэўнага выхаваньня. Усё гэта ставіць перад намі новыя і новыя задачы. *І тут у першую чаргу выплывае задача арганізацыі і кіраўніцтва гэтым масавым нацыянальным рухам.* Ад вырашэньня гэтай задачы будзе залежаць шмат, бо калі ўліваць віно новае ў мяхі старыя—гэта ў значнай меры аслабіць рух, ня выявіць яго энэргіі, а сярод моладзі можа нават выклікаць часовую дэпрэсыю.

Каб падыйсьці да вырашэньня гэтае важнае задачы, трэба добра зразумець сэнс беларускага руху, яго характар і базу, трэба перш за ўсё ўявіць, уцяміць сабе, *што беларускі нацыянальны рух носіць пэўныя адзнакі рэвалюцыйнага руху, трэба зразумець, што гэта ня толькі культурны рух, а адначасна з гэтым рух і палітычны і сацыяльны...*

Беларускі народ ня мае свае буржуазіі і шляхты. Нашая нацыя складаецца на амаль усе 100% з беднага працоўнага сялянства, з работнікаў, якія не парвалі яшчэ з вёскай і з маладое народнае здаровае інтэлігенцыі. Вось база нашага руху.

І само сабою зразумела, *што гэтая аднародная сацыяльная база мае пэўную тэндэнцыю да таго, каб беларускі нацыянальны рух быў адзіным.*

Усе, каму ідэал вызваленьня нашага народу запраўды дораг, усе, хто ахвяраваў яму сваё жыцьцё, павінны перш за ўсё зразумець гэтую простую азбучную ісьціну. Нават, калі-б у сацыяльным складзе Беларусі мы мелі значную лікам рабочую клясу і сталую інтэлігенцыю,—усё роўна прынцып адзінства трэба было-б захаваць, як сьвятыню, як першую запаведзь. Гэта пераконвае нас у тым, што мы павінны *першым лёзунгам нашым лічыць лёзунг нацыянальнае дысцыпліны. Гэтым пераможаш!..*

Гэта першае, што нам патрэбна. Само сабою зразумела, што ніякае нацыянальнае дысцыпліны быць ня можа, *калі ня будзем мець моцнага, аўтарытэтнага, здаровага ідыёвага цэнтру*, які ўжо адным сваім істнаваньнем стрымліваў-бы нацыянальных „вольнадумцаў“ ад непаправімых крокаў і прыкрых памылак. З другога боку, побач з ідэёвым цэнтрам павінен істнаваць моцны арганізацыйны цэнтр, які навакол сябе гуртаваў-бы і старых і маладых, які спрыяў-бы максімальнаму выяўленьню эфэкту народнай энэргіі...

Зазначыўшы гэта, зьвернемся да рэальнасьці.

Беларускі Нацыянальны Камітэт зьяўляецца ў нас адзіным цэнтрам беларускага руху. Другога легальнага цэнтру няма і ён нам зусім не патрэбны. Але ці адпавядае праца і аўтарытэт Б. Н. К. сучасным вымаганьням?

У свой час, у часе выбараў у Польскі Сойм, Бел. Нац. К-т бязумоўна карыстаўся вялікаю пашанаю і аўтарытэтам сярод беларускага народу. Яго слова было законам для кожнага беларуса. Інакш сотні тысячаў беларусаў не галасавалі-б за беларускі сьпісак, за тых дэпутатаў, кандыдатуры якіх выставіў Б. Н. К. Выдзяліўшы найактыўнейшых сваіх працаўнікоў у дэпутаты Сойму, Б. Н. К. значна гэтым аслабіў сваю сілу у той час, як рост беларускага руху вымагаў і вымагае значна большага ўзмацаваньня яе, вымагае яшчэ большай аўтарытэтнасьці.

Найлепшым фактам, які сьведчыць аб аўтарытэтнасьці Б. Н. К., зьяўляецца хаця-б заснаваньне Польска-Беларускага Таварыства, якое адбылося бяз ведама Б. Н. К. і бяз ведама нават яго прэзыдыуму... Гэты факт парадзіў ужо шмат толкаў і дагадак, і нават пачалі гаварыць аб нейкім расколе беларускага руху. Само сабою разумеецца, што, калі-б у свой час гэтая справа была глыбока прадумана ў нетрах Беларускага Нацыянальнага Камітэту, дык нават, калі-б і адбылося заснаваньне гэтага таварыства, дык ня выклікала-б таго ўражаньня. Або возьмем другі факт—факт арганізацыі сацыялістычнай фракцыі ў Беларускім Пасольскім Клюбе. Тут таксама трэба прызнаць, што Б. Н. К. нічога ня ведаў. Мы ня будзем сяньня крытыкаваць гэтыя факты з нашага пункту гледжаньня. Мы зазначаем толькі, *што Б. Н. К. не пасьпявае за жыцьцём і рухам.* А раз так, то трэба зрабіць адпаведныя вынікі.

*Трэба папоўніць наш ідэёвы цэнтр новымі маладымі сьвежымі сіламі, трэба ўліць у яго жылы здаровую сялянскую і работніцкую кроў.*

Апрача прадстаўніцтва ад беларускіх установаў у скад Б. Н. К. і яго кіраўнічых органаў *бязумоўна павінны ўвайсьці прадстаўнікі сялянства і работнікаў.*

Масавы беларускі рух гэтага вымагае.

І тады само сабою падымецца і маральны аўтарытэт Бел. Нац. К-ту перад вачыма беларускага народу і можна быць пэўным, што і ідэёвае кіраўніцтва беларускім рухам стане на цьвёрдыя рэйкі. Тады можна быць пэўным, што кожны сябра Б. Н. К., або Пасольскага Клюбу сем разоў адмерыць, перш чымсь адзін раз адрэзаць.

**В. Віктарынскі.**

# Жырардаўская афэра.

Жырардаўскія льняныя фабрыкі, на якіх працавала перад вайной 12.000 роботнікаў, у 1919—1920 г. знаходзіліся пад прымусовым загадам дзяржавы, і тады дзяржава ўлажыла на іх адбудову 47.250.000 марак, што выносіла па тагачаснаму курсу 2.588.168 швайцарскіх франкаў.

Калі ўласьнікі фабрык захацелі ўзяць кіраўніцтва фабрыкамі ў свае рукі, дык распачаліся перагаворы, колькі яны маюць вярнуць дзяржаўнаму скарбу. Капіталісты, як пішуць хьенскія газэты, прапанавалі ўраду Сікорскага заплаціць маркамі столькі, сколькі ўрад улажыў у жырардаўскія прадпрыемствы ў 1919 г., г. зн. 47.000.000 мк. п. Значыць, што капіталістычныя грабежнікі мелі адвагу запрапанаваць адну пяцісотую частку таго, што атрымалі ў 1919 г., бо марка польская за гэты час упала прыблізна ў 500 разоў. Урад Сікорскага на гэта быццам не згадзіўся.

Тымчасам улада перайшла ў рукі Хьена-Пяста. П. Кухарскі, міністар фінансаў гэтага ўраду, зрабіў у 1923 г. з прамыслоўцамі ўмову, па якой яны меліся зьвярнуць скарбу толькі 450.000 шв. фр., значыць толькі пятую частку таго, што атрымалі. Але і гэта было зроблена толькі для вока.

17 верасьня 1623 г. жырардаўскія капіталісты атрымалі з Паштовай Касы Ашчаднасьці 22 мільярды марак, што раўнялася тады 450.000 шв. фр. Гэтыя 22 мільярды капіталісты зьвярнулі П. К. А. толькі тады, калі марка яшчэ больш спала. І замест 2 з паловаю мільёнаў франкаў капіталісты заплацілі толькі 21.000 фр. Жырардаўская афэра не зьяўляецца адзіным прыкладам таго, як капіталісты грабяць дзяржаўны скарб. Трэба ведаць, што пятая частка ўсіх грошаў, выпушчаных дзяржаўным скарбам, пайшла на гэткія пазычкі для капіталістаў і абшарнікаў. Ужо пры ўрадзе Грабскага — у пэрыяд т. зв. „санацыі скарбу“, за час з 1 студзеня па 20 лютага выдрукавана новых 82 трыльёны мар. на пазычкі для багачоў. Ад 1-га студзеня, як мы ведаем, усё звалёрызавана, але толькі не пазычкі для капіталістаў, якім удалося дабіцца таго, што валёрызацыя крэдытаў адложана да 31 сакавіка.

І гэтыя вялізарныя крэдыты-падарункі абшарнікам і капіталістам з дзяржаўнага скарбу робяцца тады, калі сотні тысячаў работнікаў выкінуты з фабрык, мруць з голаду ад безработцьця, не атрымоўваючы ніякіх запамогаў. Калі тысячы зруйнаваных сялянскіх гаспадарак, асабліва на беларускіх і украінскіх крэсах, зруйнаваных імпэрыялістычнай вайной; да гэтага часу не адбудаваны і сяляне, як дзікія зьвяры, жывуць у норах.

Дзяржава ня мае грошаў дапамагчы работніку і селяніну, але мае трыльёны на дапамогу абшарнікам і капіталістам.

**Я.**

# Атаман Муха.

**Пахаўтураны варшаўскімі газэтамі Муха абяцае вясною вярнуцца разам з забранымі конямі.**

Варшаўскія газэты з задаваленьнем паведамілі, што вядомы атаман Муха памёр, а дзеля гэтага спыняцца і яго напады.

Але, як паведамляе „Słowo“, нябожчык Муха жыве і 5 лютага зрабіў напад на маёнтак Агарэвічы пані Тараевічыхі, дзе забраў 10 коняў і шмат іншага дабра, а 3 сакавіка быў зроблены напад на фальварак п. Рэйтановае Аліноцаль, Ляхавіцкае гміны, дзе забралі чацьвёра коняў, запраглі ў сані і ад'ехалі ў бок граніцы.

Мясцовае насяленьне расказвае, што Муха вясной мае вярнуцца з усімі забранымі конямі. На пытаньне, чаму ён бярэ коні, Муха, быццам, адказвае, што „пабачыце вясною, калі вярнуся“, даючы гэтым зразумець, што вясною пачнецца пад яго кіраўніцтвам паўстаньне. Мясцовае жыхарства верыць гэтаму і распаўсюджвае гэтыя весткі.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

### Буржуазная „направа скарбу“.

Як ведама нашым чытачом, на прызыў ураду падтрымаць яго працу па санацыі фінансаў — падпіскай на акцыі Польскага Банку, які мае выпусьціць новую валюту,—адклікнуліся толькі работнікі і працоўная інтэлігенцыя, а перад усім дзяржаўныя ўрадоўцы, пачынаючы ад самога Галавы Гаспадарства п. Войцехоўскага... 4000 гэтых дробных падпішчыкаў далі ў агульнай суме штосьці толькі каля дзесятай часткі ўсяго патрэбнага для адкрыцьця дзейнасьці Банку капіталу... Ужо больш месяца, як адкрылася падпіска, але найбольш набіўшыя кішані за часы „інфляцыі“ і таннай працы прадстаўнікі вялікага гандлю і прамысловасьці штосьці не адгукнуліся на запісы п. Грабскага—ратаваць Край ад катастрофы...

Каб падагнаць гэтых „патрыётаў“ да падпіскі, урад запрасіў найбагацейшых з іх на „нараду“. Але-ж, выслухаўшы гарачыя „апэлі“ міністраў гандлю і прамысловасьці і фінансаў, яны спакойна адказалі ім, што „добра разумеюць патрэбу гэткіх ахвяраў і гатовы падтрымаць акцыю..., але, на жаль, на гэта ня маюць гатоўкі“... У тым, што яны ня могуць зрабіць ахвяры, вінаваты не яны, але Польская Пазычковая Каса, што заместа таго, каб даваць грошы ім, як гэта было пры Хьена-Пясьце, крэдытуе каапэратывы места і т. п... Вінаваты таксама „Урад Барацьбы з Піхвай і Спэкуляцыяй“, які накладае лішне вялікія штрафы... Усё гэтае у такім цяжкім для капіталістаў часе, як цяперашні, „робіць немагчымым падпіску“...

Калі ўрад хоча, каб яны падпісаліся на акцыі Банку, дык няхай спачатку сам зразумее патрэбу ахвяраў на карысьць „гандлю і прамысловасьці“—пачне ізноў крэдытаваць іхнія прадпрыемствы і... скасуе „барацьбу са спэкуляцыяй“...А—каб паны капіталісты мелі час скарыстаць з гэтых ахвяраў ураду і зарабіць на гэтых крэдытах і тады даць пэўную частку карысьцяў „ойчызьне“,—з падпіскай і з Банкам трэба пачакаць... І хаця прадстаўнікі ўраду рашуча заявілі, што чакаць не дазваляе ані інтарэс, ані гонар гаспадарства, паны капіталісты таксама рашуча асталіся пры сваім і ў тым сэнсе і прынялі рэзалюцыю...

Вось на чым пакуль што скончылася спроба ўраду зьвярнуцца да „патрыятызму“ паноў капіталістаў, якія нават на „ахвярах“ на карысьць уласнай дзяржавы хочуць перадусім зрабіць гэшэфт!!.

### Як буржуазія плаціць падаткі.

Буржуазныя газэты паведамілі, што ўрэшце падаткі сталі плаціць ахвотна. Як доказ, прыводзяцца гэткія цыфры: у студзені падатак ад маемасьці даў 1.783.000 польскіх злотых, у першыя 10 дзён лютага 983.000 п. зл., а ў другія дзесяць дзён таго-ж лютага 3.861.000 п. зл. У працягу ўсяго году буржуазія мае заплаціць 333.000.000 п. зл. падатку ад маемасьці, як гэтага вымагае закон. Параўнаваўшы гэтыя лічбы, бачым як мала буржуазія заплаціла падатку. Нармальна ў працягу месяца трэба-б было заплаціць каля 30.000.000, а як бачым, заплачана толькі крыху больш, як 6 мільёнаў.

### Павялічэньне часу працы да 10 гадзінаў.

Газэты паведамляюць, што Міністэрства працы выдала загад, які дазваляе павялічэньне часу працы да 10 гадз. у дзень.

Гэта першы факт пагвалчаньня закону аб 8 гадз. дні працы ў Польшчы.

### У справе сьмерці Бэсарабавай.

„Robotnik“ друкуе выняткі з пратаколу мэдыцынскага агляду цела Бэсарабавай пасьля адкапаньня яе магілы. Доктар, які яе аглядаў, даслоўна заяўляе:

„Магу сьцьвердзіць: 1) сьмерць Бэсарабавай наступіла ад задушэньня ў выніку павешаньня; 2) Бэсарабава мусіла быць перад сьмерцяй страшэнна і па-барбарску скатавана“.

Ня дзіва, што паліцыя м. Львова, якая дзяржала Бэсарабаву пад арыштам, укрыла сьмерць Бэсарабавай ад яе сваякоў і патайна пахавала цела яе.

---

У Львове ў памешканьні паліцыі, якраз пад палітычным аддзелам узарвалася бомба. Зруйнаваны толькі клязэт, дзе яна была падложана. Пасьля агляду месца выбуху знойдзены яшчэ тры бомбы, якія ня ўзарваліся толькі прыпадкам. Сьледства вядзецца тайна.

## ФРАНЦЫЯ.

У палацу прэзыдэнта Рэспублікі адбылася канфэрэнцыя, на якой пастаноўлена ўсялякімі мерамі і спосабамі, якія рашано трымаць у сьціслай тайне (?!), весьці барацьбу з спэкуляцыяй заграгічных біржаў на спадак франка... Мін. фінансаў мае ўлажыць якіясь новыя праекты, што ўжо напэўна падымуць франк...

Як відаць, у хворага ўжо гарачка...

# Пашырэньне тэрыторыі Беларусі.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

На падставе пастановы 1-й Сэсіі УЦВК па пытаньню аб перадачы Беларусі раёнаў з пераважным беларускім жыхарствам,—Прэзыдыум Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту пастанаўляе перадаць Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы:

1. Са складу Вітабскай губэрні па межах старога адміністрацыйнага падзелу паветы: Вітабскі, Гарадокскі, Дрысенскі, Лепельскі, Оршанскі, Полацкі, Сенінскі і Суражскі.

2. Са складу Гомельскай губэрні паветы: Магілёўскі, Рагачэўскі, Быхаўскі, Клімовіцкі, Чэрыкаўскі і валасьці: Дзярновіцкая, Мухаедаўская, Нараўлянская, Дудзіцкая са ст. Калінковічы, Круковіцкая, цяпер Савіцкая, Даманавіцкая, Карпавіцкая цалком і часткі валасьцей: Аўцюцевіцкай і Якіма Слабодзкай па межах вёсак: Баравікі, Шапейкі, Какуёвічы, Аляксандраўка, Малыя Аўцюцевічы і вёска Домарка.

3. Са складу Смаленскай губэрні: Горацкі павет поўнасьцю і валасьці: Шамоўская, Старасельская, Казімірава-Слабодзкая і часткі Боханскай, Осьлянскай і Соенскай Мсьціслаўскага павету з гор. Мсьціславам.

4. Перадача адзначаных раёнаў павінна быць закончана ў месячны тэрмін на грунце інструкцыяў Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб парадку перадачы тэрыторыяў ад 8 кастрычніка 1923 году.

5. Пэўныя паваласныя межы між Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай і губэрніямі: Смаленскай, Гомельскай і інш. засноўваюцца ў месячны тэрмін умяркоўвачнымі камісіямі ў складзе прадстаўнікоў гэтых губэрняў і Савету Народных Камісараў БССР і зацьвярджаюцца прэзыдыумамі Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў РСФСР і БССР.

6. Для ўмеркаваньня спрэчных пытаньняў, якія могуць вынікнуць пры перадачы адзначаных раёнаў, скласьці камісію пад старшынствам члена ЦВК Саюзу ССР гр. Асаткіна ў складзе: двух прадстаўнікоў ад БССР і двух прадстаўнікоў ад Гомельскай ці Смаленскай губэрні, у залежнасьці ад пытаньняў, належачых да ўмеркаваньня камісіяй.

Рашэньне камісіі лічыцца канчатковым.

---

## С. С. Р. Р.

### Нота Чычэрына да Літвы.

Чычэрын выслаў ноту ў справе Клайпеды і польска-літоўскай граніцы. Нота заяўляе, што Саюз Радавых Рэспублік, дазнаўшыся аб новым праекце ўрэгуляваньня Клайпэдзкай справы праз „т. зв. Лігу Нацыяў“, сьцьвярджае, што пастановы адносна Клайпэдзкага порту пагвалцілі-б інтарэсы С. С. Р. Р. Саюз ня можа дапусьціць да прысваеньня сабе праз трэція дзяржавы спэцыяльных правоў у Клайпэдзкім парту і на Нёмне. Літва ня можа бяз згоды С. С. Р. Р. дапушчаць да інтэрвэнцыі ў вырашэньні гэтай справы трэціх дзяржаваў.

Радавы ўрад—кажа далей нота—мае пэўнасьць, што пасьля гэтай прыязнай перасьцярогі далейшыя пастановы Літоўскага ўраду будуць прыняты ў поўнай гармоніі з паглядамі С. С. Р. Р. і будуць апірацца на прынцыпах самаазначэньня свайго лёсу і што Літва пастараецца аб захаваньні мірнага трактату з Радавымі Рэспублікамі.

Зьмест гэтай ноты пераданы і іншым дзяржавам. Да гэтай ноты далучана нота, скіраваная да Англіі, Францыі, Італіі і інш. Нота абвяшчае, што ўрад С. С. Р. Р. будзе лічыць за няважнае ўсякае разьвязаньне справы Клайпэды без яго ўчасьця. Урад С. С. Р. Р. паўтарае дэклярацыю ў справе гранічнай спрэчкі паміж Польшчай і Літвою. Гэтая спрэчка, згодна з трактатамі, павінна быць вырашана толькі праз згоду паміж Польшчай і Літвою, але граніца Польшчы і Літвы ня можа быць вызначана праз інтэрвэнцыю трэціх дзяржаў.

---

**З вялікай урачыстасьцю 12/III меў адчыніцца вяліні зьезд усіх саветаў павялічанай Беларусі. На зьезьдзе маюць быць выбраны ўсе ўлады Б. С. С. Р.**

---

Радавая прэса апублікавала тэкст падпісанага 5 сакавіка 1918 г. ген. Авэрэско і Ракоўскім дагавору, у сілу якога Румынія абавязывалася эвакуаваць (ачысьціць) Бэсарабію. З гэтага відаць, што Румынія ня мае правоў на Бэсарабію, якую захапіла няпраўна...

---

У афіцыяльным гаспадарчым органе радавага ўраду „Экономическая Жизнь“ зьявіўся артыкул эканаміста Розэнблята, які адкрыта і ясна ставіць пытаньне аб пераглядзе Рыжскага Трактату, як варунак нармальных адносінаў і торговага дагавору паміж Польшчай і С. С. Р. Р. Артыкул вызваў вялікае парушэньне ў польскай прэсе, якая падкрэсьлівае, што артыкул зьявіўся ў той самы дзень, калі польскі пасол Дароўскі, уручаючы свае граматы, у сваей прамове казаў аб канешнасьці сьцісла трымацца трактатаў..

### „Ножніцы“ сходзяцца.

Так званыя „ножніцы“, г. зн. гаспадарчы крызіс, які выяўляецца ў тым, што цана на сельска-гаспадарчыя тавары ў золаце ніжэйшая, чым на прамысловыя. Гэткі крызіс ахапіў ня толькі Радавыя Рэспублікі, але амаль ня ўсе краі сьвета. Аднак у Радавых Рэспубліках крызіс гэты найбольш даваў сябе адчуваць.

Радавая ўлада разумела, што гэты крызіс зьяўляецца вялікай небясьпекай для работніцка-сялянскай дзяржавы, бо ўбівае клін паміж сялян і работнікаў. Сяляне ўсьцяж бяднелі, ня маючы магчымасьці за свае танныя сельска-гаспадарчыя прадукты набыць дарагіх прамысловых вырабаў.

Барацьба з крызісам, якую распачаў Радавы ўрад, палягала ў тым, што стараліся абнізіць кошты прамысловай вытворчасьці праз лепшую арганізацыю прамысловасьці і падняць цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў да перадваеннай роўні.

Цяпер можна адзначыць дадатнія вынікі гэтай барацьбы, якія відаць з гэткай табліцы:

| | Цана с.-гасп. прадуктаў у прац. адносін. да перадваен. | Цана прамысл. вырабаў у прац. адносінах да перадваеннай. |
|---|---|---|
| На 1-га кастрыч. 1923 г. | 54% | 172% |
| „ 1-га лістап. „ | 59% | 165% |
| „ 1-га сьнежня „ | 67% | 154% |
| „ 1-га студзеня 1924 г. | 74% | 147% |
| „ 11-га „ „ | 74% | 146% |
| „ 21-га „ „ | 79% | 143% |
| „ 1-га „ „ | 86% | 137% |

З гэтага відаць, што ў той час, калі цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты растуць, імкнучыся да перадваеннай роўні, цэны на прамысловыя вырабы абніжаюцца, таксама зьбліжаючыся да перадваеннай роўні.

Гэтае зьявішча мае вялікае значэньне ня толькі для сялян, але і для работнікаў, бо адносна да ўзросту цэнаў на с.-гаспад. прадукты павялічваецца і заработная плата, а адначаснае паніжэньне цэнаў на прамысловыя тавары адбываецца ня коштам абніжэньня работніцкіх заработкаў ці павялічэньнем дня працы, як у буржуазных дзяржавах, але праз удасканаленьне апарату вытворчасьці. Адначасна ліквідацыя крызісу давядзе да раўнавагі ўва ўсім гаспадарчым жыцьці. Разьвіцьцё прамысловасьці пойдзе далей шыбкім тэмпам, бо сяляне ўсё ў большым разьмеры будуць набываць прамысловыя тавары.

## НЯМЕЧЧЫНА.

У Іене ў часе ўрачыстасьці „Нямецкага дня“, наладжанай правымі нацыяналістамі, дайшло да крывавых баёў з камуністамі. Шмат паранена, арыштавана некалькі камуністаў.

## ЛІТВА.

Урад мае ўнясьці ў Сойм праект устанаўленьня вольнага гандлю.

## ЭСТОНІЯ.

Габінэт падаў у адстаўку, бо земляўласьнікі адазвалі з ураду сваіх міністраў.

### Ангельскія камуністы аб урадзе Партыі Працы.

„Daily-Herald“ прыводзіць адозву, абвешчаную праз Выканаўчы Камітэт Камуніст. Інтэрнацыянала і Цэнтр. Камітэт Камуністычнай Партыі Англіі да ангельскага пралетарыяту і работнікаў усяго сьвету.

Работніцкі ўрад ў Англіі—кажа адозва—не зьяўляецца вынікам перамогі ў барацьбе работніцкай клясы з капіталам. У Англіі, як і раней, пануе буржуазія, срэдствы вытворчасьці знаходзяцца ў яе руках, мае яна і далей пад сваім загадам вялізарныя колёніі, армію і флёт. Уладу сваю ангельская Партыя Працы атрымала, дзякуючы таму, што ангельская буржуазія не патрапіла даць сабе рады з пасьледствамі разбойніцкай вайны, што разьбілася на два змагаючыяся з сабою лагеры. Дзеля гэтага Партыя Працы, якая ў часе вайны падтрымлівала ангельскую буржуазію, а пасьля вайны не зарганізавала работніцкай клясы для абароны яе інтарэсаў, прымаючы ўладу з рук буржуазіі, цалком залежыць ад падтрыманьня лібэралаў. У ўрадзе Мак-Дональда сядзяць ня толькі людзі, якія ў часе вайны вэрбавалі ў армію жаўнераў, але й та-

кія, якія да гэтай пары стаяць на грунце інтарэсаў буржуазіі і адкрыта іх бароняць.

Камуністычная партыя ніколі ня ўкрывала, што ня верыць у паважную папраўу работніцкага быту, у магчымасьць паступовага зьдзейсьненьня сацыялізму, пакуль работніцкія масы ня вырвуць палітычнай улады з рук капіталістаў. Камуністычная партыя ніколі ня ўкрывала свайго глыбокага недаверыя да правадыроў Партыі Працы, як і да ўсяго другога Інтэрнацыяналу.

Але Камуністычная партыя адрожнівае работнікаў, якія верацъ лёзунгам Партыі Працы, ад правадыроў, якія часта высоўваюць гэтыя лёзунгі толькі, каб прывабіць работнікаў. Ведаем — кажа адозва — што безработныя, якія аддалі свае галасы Партыі Працы, жадаюць барацьбы з безрабоцьцем; ведаем, што ўся работніцкая кляса паважна дамагаецца ападаткаваньня капіталістаў і багачоў і аблягчэньня долі незаможных, хоча блізкіх эканамічных зносінаў з Радавымі Рэспублікамі, каб памагчы творчай працы радавых работнікаў і даць працу безработным. Ведаем, што работнікі, якія йдуць за Партыяй Працы, зьяўляюцца ворагамі каляніяльнага ўціску ў Індыі і Эгіпце, ворагамі палітыкі ўзбраеньняў.

Адозва зварочваецца да работнікаў, падтрымліваючых Партыю Працы і вітаючых работніцкі ўрад з гэткай заявай:

„Камуністычная Партыя Англіі будзе падтрымліваць кожны крок работніцкага ўраду, які мае замер паляпшэньня быту работніцкай клясы, зьмяншэньня ўзбраеньняў і небясьпекі вайны.

Але адначасна адкрыта абвяшчаем: Партыя Працы, каб запэўніць сабе падтрыманьне лібэралаў, будзе шаг за шагам адступацца ад сваіх абяцанак, калі ня зробіце на яе паважнага націску, калі не дакажаце ёй, што кожная ўступка на карысьць лібэралаў азначае разрыў з вамі. Дзеля гэтага заклікаем вас да супольных дэманстрацыяў аб даўнейшыя дамаганьні Партыі Працы: стварэньня камітэтаў, якія будуць змагацца аб:

1. Дапамогу для безработных, згодна з нормамі, вызначанымі праз профэсыянальныя саюзы.

2. Нацыяналізацыя капальняў, гутаў, чугунак і работніцкі кантроль над вытворчасьцю,

3. Абсалютная свабода для Ірляндыі, Індыі і Эгіпту. Разрыў з палітыкай узбраеньняў. Крэдыты для Радавых Рэспублік. Адмена ганьбячага Вэрсальскага мірнага трактату“.

Адозва канчаецца заклікам да ангельскіх работнікаў, каб утварылі адзіны фронт працы і барацьбы.

# З Польскага Сойму.

## Інтэрпэляцыі.

108 паседжаньне Сойму пачалося адчыненьнем інтэрпэляцый **п. Розмаріна** (жыдоўск. кола) аб забойстве паручнікам польск. арміі Гаўкэ жыда Ліпскера і катаваньні вязьняў у Львоўскім вастрозе.

### Устава аб дапамозе безработным.

У далейшым працягу йшла гарачая дыскусія. Прамаўляла аж 33 паслы. Варта адзначыць у папраўках дамаганьні залічэньня да сям'і незаконных дзяцей,—атрыманьня дапамогі зараз-жа па страце працы і на працяг 26 тыдняў, а не праз 10 дзён і на 13 тыдняў, як прапануе праект. Пасол Праусова (П.П.С.) дамагалася, каб дапамогі не пазбаўлялі, калі безработны адмаўляецца ад працы, шкоднай для здароўя ці для маралі.

Канчальнае слова дакладчыкам і галасаваньне адложана.

### Дапамогі на адбудову.

П. Пасацкі (пястовец), дакладчык новай уставы, якая тасуе для дапамогі сыстэму пазычак, якія будуць выдавацца праз банк, прычым дакладна будзе акрэсьлена чарговасьць тыпаў пашкадаваных. Першую чаргу апошніх складаюць тыя, што жывуць у зямлянках. Устава мела-б вялікае значэньне для беларусаў, з якіх тысячы дагэтуль жывуць у зямлянках, калі-б...

Цікава адзначыць, што з дапамогаў дзяржавы могуць карыстацца гаспадаркі ня толькі малыя, але і найвялікшыя... І тут польская ўлада клапаціцца, відаць, больш усяго аб „пашкадаваных“ на Крэсах польскіх абшарніках...

Прадстаўнік ураду падаў вельмі цікавую статыстыку адбудовы, якую прыводзім тут. Дасюлешні закон даваў ня больш 20% коштаў адбудовы; дзеля таго толькі маючыя ўласьнікі маглі скарыстаць з помачы...

Запамогі лесам зьявіліся крыніцай нязьлічаных надужыцьцяў... І ўрадоўцаў пацягнулі да суду, 150 пастаўшчыкоў, 132 грамадзянаў—за прадажу адпушчанага лесу. Зразумела,—тое, што падаў прадстаўнік ураду—капля ў моры дакананых надужыцьцяў...

Наагул зьнішчана было ў часе вайны 1.785.305 будынкаў: у тым ліку 6.543 школы, 1.791 касьцёл, 1.700 грамадзкіх гмахаў, 27.000 каменіцаў, 499.850 драўняных дамоў і 1.248 441 будынкаў вясковых.

Дагэтуль адбудавана каля двух трэціх усяго ліку, лічучы наагу, па 15 працэнтаў у год. Цікава, што на заходзе Польшчы адбудова ўжо скончана. Але па меры таго, кажа сам прадстаўнік ураду, як пасоўваемся на ўсход, лічба адбудаваньняў рэзка зьмяншаецца... Напрыклад, у ваяводзтве Кракаўскім адбудавана 99%, а ў Палескім (Беларусь!..)—толькі 23,8%.

Будовай польскага асадніцтва, але не адбудовай зруйнаванага беларускага сялянства займалася тутака польская ўлада...

Спрэчкі адложаны.

### Сэрвітуты і паводкі.

П. Маліноўскі (левы людовец) матывуе вельмі важную і для нашага Краю сьпешную прапазыцыю, каб абмяжаваць самаволю абшарнікаў пры ліквідацыі сэрвітуту. Дамагаецца вельмі важнага і для нашага сялянства зборніка ўставаў, датычачых сялянства з тлумачэньнямі. Сьпешнасьць прынята.

У канцы прынята сьпешнасьць прапазыцыі ўраду, каб прыняў меры ў віду магчымасьці небясьпечных паводкаў.

# З газэт.

### Каля сэсіі Лігі Нацыяў.

У сувязі з пачаткам сэсіі Рады Лігі Нацыяў (10 сакавіка) і разгляданьнем тамака цэлага раду спраў Польшчы, польскія газэты з апошніх дзён удзяляюць шмат месца польскай заграмічнай палітыцы і адносінам Польшчы да суседзяў. Хаця справа споркі Польшчы з Чэхіяй аб Яважыну скончылася для Польшчы непамысна, эндэцкая „Gaz. Warsz.“ робіць „добрую міну“ і адзначае, што ліквідацыя спрэчкі з чэхамі

> адкрывае дарогу да польска-чэскага супрацоўніцтва ў міжнароднай палітыцы.

Добра і гэта—на пацеху!

Другая справа, якой ужо пачала займацца Рада Л. Н., гэта — справа Клайпэды. Вось-жа, ў гэту справу неўспадзеўкі ўмяшаўся ўрад С.С.Р.Р., які ў нотах да Літвы і тых дзяржаваў, што маюць прадстаўнікоў у Радзе Лігі Нацыяў, разаслаў ноты пратэсту проці ўчасьця ў польска-літоўскай спорцы Лігі Нацыяў. Паміж іншым, урад С.С.Р.Р. пратэстуе проці прызнаньня асаблівых правоў Польшчы ў клайпэдзкім порце і на Нёмане.

Орган польскіх сацыялістаў, „Robotnik“, з гэтае прычыны піша, паміж іншым, гэтак:

> Нараканьні Чычэрына, што інтарэсы Расеі маглі-бы пацярпець у прыпадку прызнаньня за Польшчай некатарых правоў у Клайпэдзе і на Нёмане,—роўна неабаснаваны, калі прыняць пад увагу, што інтарэсы Расеі могуць быць у поўнай меры забясьпечаны тарговай умовай між Расеяй і Польшчай.

„Robotnik“—благі дыплямат: ён прагаварыўся, што Польшча затым і імкнецца чым хутчэй заняць месца аднаго з гаспадароў Клайпэды і Нёмана, каб выкарыстаць гэтае сваё палажэньне пры перагаворах аб тарговых зносінах з С.С.Р.Р.

Усё-ж выступленьні Чычэрына выклікаюць у іншых часопісях трывожныя ноткі. У сувязі з імі, а так-жа з разрывам польска-нямецкіх перагавораў аб правох „оптантаў“ (немцаў, якія прынялі польскае „абыватэльства“), многа гаворыцца аб нямецкіх вайсковых сілах і гатоўнасьці Нямеччыны да вайны. „Nowa Reforma“ піша:

> Як выяўляецца з вывадаў палкоўніка Рэбуля, нямецкі афіцэрскі корпус, які па сканчэньні вайны складаўся з 160.000 асоб, павялічыўся значна новымі сіламі, узгадаванымі „Рэйхсвэрай“ і „Шупо“ (Schutzpolizei). Калі нямецкая армія меціла аднаго афіцэра на 25 жаўнераў, дык ужо цяперашні афіцэрскі корпус дае магчымасьць змабілізаваць 4 мільёны душ. Унтэр-афіцэраў даволі знойдзецца ў „Рэйхсвэры“ і ў „Шупо“. Вымуштраваных жаўнераў немцы маюць 7 мільёнаў; з іх прынамся палова належыць да розных вайсковых саюзаў і стане пад штандарам на першы кліч.

У канцы, адзначыўшы, што Нямеччына захавала даволі аружжа, газэта кажа, што нямецкая мабілізацыя можа быць праведзена ў 45 дзён, а ў першы вагонь гатова вырушыць „Шупо“.

„Gaz. Warz.“, аднак, супакоівала сваіх чытачоў, вінавацючы партыю Пілсудскага, што тая зумысьля б'ець на трывогу—асабліва ў адносінах да Усходу.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Беларускае Навуковае Таварыства.** Гэтая беларуская культурная ўстанова, ня гледзячы на яе вялізарнае значэньне, ня можа, як сьлед, разьвівацца з прычыны адсутнасьці матарыяльных засобаў. Т-ва мае свой багаты музэй і бібліятэку—спадчыну па с. п. Івану Луцкевічу, але дагэтуль ня можа адчыніць яго дзеля публічнага ўжытку з прычыны адсутнасьці шкляных шаф і вітрын, каб разлажыць вельмі багатыя памяткі нашае мінуўшчыны. Таксама, ня гледзячы на багаты навуковы матарыял, Т-ва ня можа выдрукаваць яго, ня маючы патрэбных грошы.

У тую нядзелю назначаны быў агульны сход сяброў Таварыства. Аднак, сход ня мог адбыцца з прычыны няпрыбыцьця патрэбнае лічбы сяброў. З гэтае прычыны чародны сход, згодна з статутам Т-ва, адбудзецца цераз месяц, 13 красавіка (ў вербную нядзелю) ў 11 гадз. раніцы ў залі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9). Сход будзе правамочны пры кожным ліку сяброў.

Парадак дня: 1) справаздача ўраду; 2) плян далейшае працы; 3) давыбары ўраду; 4) бягучыя справы.

Заявы аб жаданьні пастуціць у сябры Т-ва трэба падаваць старшыні Т-ва, грам. А. Луцкевічу (Віленская 8, пам. 3) з рэкамэндацыяй двух сяброў Т-ва.

**Школьныя падручнікі.** Беларускае Выдавецкае Т-ва выпускае літаграфскім спосабам рад падручнікаў для ўжытку сярэдняе школы. Хутка выйдуць: Фізыка А. Трэпкі, Касмаграфія Р. Астроўскага і інш. Гэтыя літаграфныя выданьні створаць цэлую бібліятэку падручнікаў, датарнаваных да вымаганьняў найнавейшых школьных праграм.

## Весткі з вёскі.

Адна сялянка мінулым летам злавіла маленькага зайчыка. Прынясла да хаты, стала за ім даглядаць, паіць, карміць, адным словам, глядзела за ім, як за хатняй жывёлінай. Зайчык на добрым корму скора вырас і зрабіўся сыты, як мянтуз. Але трапілася бяда. Ня стала грошаў на газу, мыла і інш. Узяла зайца і панясла ў м. Ракаў прадаваць. Знаёмы жыд параіў занясьці яго да палацу Зьдзехоўскага, там параілі занясьці да ксяндза. Ксёндз, з свайго боку, сказаў занясьці да камэнданта паліцыі. Панясла баба і туды, спадзяючыся, што зайца прадасьць і вандроўка яе скончыцца. Прынясла. Аддала і чакае грошаў, але замест грошаў атрымала нешта другое... Атрымала некалькі разоў па патыліцы, а потым пан камэндант спусьціў бедную кабеціну з ганку так, што яна доўгі час ляжала на сьнягу, чухала пабітыя бакі і праклінала тую гадзіну, калі злавіла зайца.

**Прысутны.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Праца Беларускай Канторы Прамысловага Банку.** Эканамічная нарада Б.С.С.Р., разгледзіўшы справаздачу Беларускай Канторы Прамысловага Банку, знайшла працу Канторы за мінулы год здавальняючай.

Адначасна нарада пастанавіла прыняць цэлы шэраг мерапрыёмстваў дзеля пашырэньня працы Канторы.

Між іншым, пастаноўлена рэарганізаваць Беларускую Кантору ў Рэспубліканскую з правамі, якія даюцца краёвым Канторам.

Пастаноўлена таксама запрапанаваць Беларускай Канторы, па згодзе з Дзяржаўнай плянавай камісіяй, прыступіць да арганізацыі аддзелаў і да рэалізацыі сваіх акцыяў на тэрыторыі пашыранай Б.С.С.Р.

Дзеля далейшага палепшаньня працы Канторы прызнана неабходным правясьці гэткія мерапрыёмствы: 1) прыняць крокі да павялічаньня тэрмінаў крэдытаваньня, 2) імкнуцца да больш шырокага разьвіцьця актыўных апэрацыяў банку ў бок павялічаньня выдачы пазыкі прамысловасьці пад тавары і інш.

**Новыя кніжкі.** У хуткім часе дзяржаўнае выдавецтва „Белтрэстдрук“ выпускае з друку чарговыя беларускія кніжкі „Сялянскай бібліятэкі“: „Быдла“. (Гутарка аб тым, як гадаваць быдла) — агранома—**М.** Кацаурава, „Аб насеньні“ (як разводзіць і падгатаўляць насеньне для сяўбы)—М. Кацаурава, „Соль і яе занабытак“—Ул. Львова.

Зданы ў друк гэткія кніжкі: „Беларуская мова“ (граматыка для школ) — Я. Лёсіка, „Практычны расейска-беларускі слоўнік“—Н. Байкова і М. Гарэцкага, „Гадаваньне грудных дзяцей“—д-ра Ів. Цьвікевіча і „Белорусский язык, как фактор национально-культурный“—праф. Пічэты.

### Пашырэньне сельска-гаспадарчай асьветы.

(*М. Леніна*).

У м-ку Леніна адчыніліся трохтыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы для сялян воласьці.

На курсы запрошаны лепшыя аграномы па сельскай гаспадарцы. Апрацоўваюцца ўмовы відавочнага кармленьня жывёлы з мэтай палепшаньня жывёлагадоўства ў вёсках. Заняткі на курсах адбываюцца ў дзьве зьмены: для мясцовага жыхарства чытаньне лекцыяў адбываецца штодзённа вечарам. Што-ж датычыць вясковага жыхарства, дык для апошніх выкладаньне лекцыяў прыстасоўваецца к нядзельнаму супачынку.

Вал. Вык. Камітэт зрабіў усе належныя крокі, каб курсы дасягнулі лепшых вынікаў у сваёй працы.

**Б.**

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.